№ 57 Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопіс
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Адрэс рэдакції: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыції: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 57 (149). Год II. Вільня, 17 ліпня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Незалежнасць Фінляндії.

### 16 ліпня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Англічане ўчора раніцай трэмя штурмамі прабавалі адваеваць нідаўна здабытые ў іх пазыції пры Лёмбардсідэ. Кожын раз яны былі адбіты з вялікімі стратамі. На Ізэры, ля каналу Лябассэ і на Скарп узмацаваўся агонь. Пры Ленс і Фрэнуа адбіты сільные наступленьня англічан.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Заядлымі, але дарэмнымі атакамі французы памыкаліся здабыць пазыціі на поўдні ад Курткон. Тут і на поўдні хутара ля Бовэль яны мелі надта цяжкіе страты.

У заходняй Шампані некатарые з нашых пярэдніх акопаў каля Высокай гары асталіся ў руках ворагоў. Пры гарэ Пэль мы ізноў занялі цэлком нашу старую лінію. Узято значнае чысло палонных і некалькі кулемётаў. На заходнім беразі Маасу жывая артылерыйская бітва.

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскаго*: Жывейшы агонь артылерыі між Маасам і Мозэлем.

**Усходні тэатр:**

Каля Рыгі і на поўдні ад Дзьвінска—вострая баевая чыннасць.

На румынскай раўніне агонь крапчэе. У усьці Дунаю боўгарскіе варты адкінулі наступленьне расейцоў.

---

БЭРЛІН. **Імперскі канцлер Міхаэліс** заявіў сягоньня членам парляманту, што ў **аўторак ён скажэ прамову**, ў якой выскажэ праграму сваей унутрэнай і загранічнай палітыкі.

Гіндэнбург быў сягоньня на нарадзі ў міністэрстве ўнутрэных дзел. Пры выхадзі яго акружыла, горача вітаючы, многатысячная грамада людзей.

ШТОКГОЛЬМ. Карэспандэнты амэрыканскіх газэт даносаць с Пецярбурга, што тымчасовы ўрад гатоў аддаць у рукі амэрыканцоў большую часць капальняў і фабрык. Гасударственые чыгункі будуць аддадзены на залог за пазыку. Для амэрыканскіх жнівярак у Расеі будзе установлена монополія.

БЭРЛІН. **Формула** большасьці Рэйхстагу **аб міры** будзе зразу разгледацца на агульным сабраньні Рэйхстагу, мінаваўшы камісію.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У паўночным поясе блокады нямецкіе падводные лодкі ізноў затапілі 24.000 тонн.

ШТОКГОЛЬМ. «Нов. Вр.» пішэ: У сумных здарэньнях, быўшых на галіцкім фронці, прынімалі ўчасьце толькі украінскіе палкі. Палкі 46, 46, 47 і 48 **адмовіліся наступаць**. Полк 51 адыйшоўся назад, а 52 арэштаваў усіх афіцэроў.

«День» даносіць, што за дзень перад наступленьнем каля Копэчніка (?) узняўся **украінскі ваенны бунт**. Палкі 438 і 462 адмовіліся слухаць і **пазабівалі сваіх афіцэроў**. Яны заявілі, што ня будуць слухаць ніякіх прыказоў датуль, пакуль ня будзе споўнено жаданьне украінскаго ваеннаго конгрэсу аб утварэньні нацыональнай украінскай арміі.

БЭРН. З Афін даносяць: Каралеўскі дэкрэт, паводлуг катораго распускаецца цяперашні парлямэнт і сазываецца нанова распушчэны 31 мая 1915 году, не надрукован у офіцыальнай газэці. У монархістычных кругах вялікі перэпалох. Монархісты кажуць, што король ня можэ падпісаць гэтаго дэкрэту, бо гэта было-бы роўназначным прызнаньню рэволюції і паменшэньню правоў караля.

---

*Вільня, 17 ліпня 1917 г.*

Праз морэ крыві, праз горы трупоў ідуць народы да волі. Адны ліюць сваю кроў у рэволюціях, разбіваючы путы няволі, узложэные на народы іх валадарамі, пануючымі станамі сваей жэ нацыональнасьці. Другіе—ў крывавых войнах с паняволіўшым іх хітрэйшым, ці дужэйшым суседам. А пралітая кроў, хоць мо і не зразу дае пабеду уціснаным, усё-ж такі дарма ніколі не прападае.

Гэтак сама не дарма праліліся рэкі крыві ў сучаснай вялікай сусьветнай вайне. Ужо цяпер можна сьмела сказаць, што вялікіх змен у карце Эуропы вайна не прынясе,—але затое яна прынесла вялікую пабеду справе дэмократызму. . . . . . . . . . . .

Гэтак ваенная навальніца, каштаваўшая мільёны ахвяр з людзкога жыцьця, крок за крокам крышыць астоі старога, аджыўшаго свой век палітычнаго ладу, аснованаго на панаваньні «вышэйшых» станаў над нялічэнымі мільёнамі працоўнаго народу. І перад народнымі массамі, аддзеленымі ад палітычнаго жыцьця іх бацькаўшчыны, адкрываецца новая эра, калі і яны могуць прылажыць руку да творчай гасударственай работы і забаспечыць сабе і патомным пакаленьням ясьнейшую долю.

---

## Польшча і Украіна.

Быў час, калі справа вызваленьня Польшчы незвычайна цікавіла ўсю Эуропу. Аб ей неустанна пісалі ўсе газэты ва ўсіх краёх і ва ўсіх мовах. За яе сталі ўсе, каму дарага ідэя свабоды.

Цяпер польскую справу можна лічыць як-бытцым развязанай: Польшча мае незалежнасць. Польшчы дадзена магчымасць самой ладзіць сваё жыцьцё.

Як жэ яна яго ладзіць?

Першае слово, якое мы пачулі з вуст першай дзержаўнай уласьці вольнай Польшчы, гэта было жаданьне паняволіць сваіх суседзяў—беларусаў, украінцоў, літвіноў....

Першы палітычны ідэал, аб якім загаварыла вольная Польшча, гэта быў шляхоцкі монархізм....

І гэта — ў часі, калі ўвесь сьвет прызнае право на вольны быт, право станавіць самой аб сабе за кожнай, нават найменшай нацыей, — у часі, калі ў Расеі ладзіцца рэспубліка, калі па ўсей Эуропе пачынае панаваць ідэя дэмократызму!

Ня дзіва, што беларусы, украінцы, літвіны заявілі свой востры пратэст проці польскіх захватных апэтытоў, што лепшые с-паміж палякоў, як найвялікшы сучасны баец за волю Польшчы, Язэп Пілсудскі, і ўсе дэмократычные элементы не захацелі прыкладаць рукі да будаваньня т а к о й Польшчы і выступілі с польскай дзержаўнай рады. А разам с тым цікавасць Эўропы да польскай справы блізка зусім чэзьне.

Затое перад грамадзянствам усяе Эуропы паднімаецца новая справа: справа вызваленьня Украіны.

Як калісь усе газэты былі перапоўнены стацьцямі і заметкамі аб польскай справе, так цяпер пішуць аб украінскай. Ею роўна цікавяцца ў Парыжы і ў Лондоні, як у Бэрліне і Вене.

І запраўды, справа Украіны, справа мо' найбольш дэмократычнаго па свайму складу украінскаго народу, так сама «мужыцкаго», як беларусы, — мае ўсе данные дзеля таго, каб ею цікавілася Эўропа: вольная, незалежная украінская рэспубліка, аддзеленая ад Расейскай дзержавы, зусім змянілабы уклад агульна-эуропэйскіх палітычных адносін. Гэта — не маленачкая Польшча, з усіх бакоў акружэная магутнымі суседзямі, бяз вольнаго выхаду да мора, як колішняя Сэрбія. Украіна — то вялізарны абшар с 30-мільённым пасяленьням, катораму Чорнае морэ адкрывае выхад на ўвесь сьвет. Гэта — абшар, забаспечэны вялізарным прыродным багацьцем — чорназёмам, бязцэнными залежамі каменнаго вугальля, марганца, жалеза і т. п. Гэта—абшар, каторы, як незалежная дзержава, мае вялікую будучыну, можэ стацца сур'ёзнай сілай у палітычным жыцьці Эўропы, кузьняй новых дэмократычных ідэй.

Чы Украіна здабудзе для сябе поўную незалежнасць? Чы мо' астанецца у складзе фэдэрацыйнай расейскай рэспублікі? Вось пытаньня, на каторые дасць адказ блізкая будучына. А ад тэй ці іншай развязкі іх будзе залежаць і будучына ўсяе Расеі.

*І. Мелешка.*

---

## У Вільні і ваколіцах.

× **Грамадзянскі угодлівы суд.** Як мы даведаліся, склад Грамадзянскаго Угодліваго Суда між кватэрантамі і гаспадарамі дамоў, зложэнаго дагэтуль с 7 асоб, мае

быць павялічэн да 9. Дагэтуль у ім заседалі па 3 выбарные судзьдзі ад саюза кватэрантоў і саюза гаспадароў дамоў пад маршалкоўствам супэрарбітра, выбранаго з агульнай згоды абодвых саюзаў. Цяпер кожын саюз выбярэ ад сябе яшчэ чацьвёртаго судзьдзю.

× **Сэйнэнскі біскуп Карась,** прыехаўшый з Расеі 19 красавіка, 11 ліпня прыехаў у Вільню, дзе адведаў Глаўнакамандуючаго Эйхгорна і начальніка ваеннаго упраўленьня, кн. Ізэнбурга-Біррштэйна. 14 ліпня біскуп выехаў у сваю тымчасовую рэзыдэнцію ў Вілковішках.

× **Нядоімкі.** Нядоімкі за 1916 год будуць спаганяць прынукай.

× **Заказы на тавары.** Ешчэ раз напамінаюць, што ўсе заказы ў Нямеччыне, Варшаўскім генэрал-губэрнатарстве і ў межах Обэр Ост трэба даваць толькі ў Handelsabteilung пры Stadthauptmann'e, Домініканская 3, пакой 59.

× **Выплата пайка** сем'ям запасных за месяц чэрвень г. г. адбудзецца ў III аддзелі местоваго ураду дзеля бедных пры нямецкім Stadthauptmann'e Вільні, Домініканская 2, пакой 143, ад 8 да 12 перад абедам і ад 4 да 7 вечарам у гэткіе дні:

| | | |
|---|---|---|
| для 4 цыркулу | — | 20, 21 і 23 ліпня |
| „ 6 „ | | 24 „ |
| „ 7 „ | | 25 „ |
| „ 8 „ | | 26 і 27 „ |
| „ 1 „ | | 28 „ |
| „ 5 „ | | 30 і 31 „ |
| „ 3 „ | | 1 жніўня |
| „ 2 „ | | 2 „ |

Запасьніцы, каторые ў назначэные для іх дні ня возьмуць сваіх грошы, павінны явіцца 3 і 4 жніўня ў гадзінах чыннасьці кассы.

Пасьля 4 жніўня пайка за чэрвень выплачываць ня будуць.

× **Грошы з Расеі.** Для Зофіі Шымко, каторую, як вядома, вінавацяць у двайным душэгубстве і каторая ўцекла нет ведама куды, прыйшлі грошы з Расеі. Яе вызываюць у Остбанк, Вялікая 66, узяць гэтые грошы.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 11—12 | + 15° | + 11,5° |
| 12—13 | + 20° | + 12° |
| 13—14 | + 15° | + 12,5° |
| 14—15 | + 17,5° | + 14° |

## З усяго Краю.

ЧОРНЫ БОР, Віленск. пав. (Ад нашаго карэсп.). У заложэнай тут Беларускім Камітэтам ахронцы для бедных дзяцей—пераважна вучнёў беларускіх школ у Вільні знаходзіцца цяпер 61 дзіця і 9 сталых асоб, у тым ліку тры вучыцельскіе сілы. Жыцьцё наладзілося вельмі добра: дзеці маюць поўнае утрыманьне, добры дагляд, а разам с тым не забываюць і кніжкі, хаця безмала ўвесь дзень праводзяць на сьвежым паветры. Ваколіцы тут вельмі пекные. Недалёка ад Чорнаго Бору працекае рэчка Вака, ў каторай дзеці маюць добрые купаньня.

Ахронка мае сваё імя: «Наша Хата».

РЭША. Франц Селянкевіч і Язэп Сэргаліс 3 красавіка зрабавалі 20 фунтоў мукі у людзей, ішоўшых у Вільню. Іх засудзілі кожнаго на год у вастрог.

ВЯЛІКІЕ СТОЯЦІШКІ. Адольфа Гроца віленскі акружны суд вінаваціў у забойстве бацькі яго, Казіміра Гроца, катораго ён 6 марца вёз п'янаго на ручных саначках. Труп бацькі ён кінуў у сажаўку ля дарогі ў Малые Стояцішкі. Забойца бацькі засуджэн толькі на 10 гадоў у вастрог, бо ён ня скончыў ешчэ 18 гадоў і з гэтай прычыны ня мог быць засуджэн на сьмерць.

БЕЛАСТОК. 26 ліпня тутэйшы Stadthauptmann зацьвярдзіў статут купецкаго крэдытнаго таварыства для патрэбуючых крэдыту. Калі расейцы перад прыходам немцоў пакідалі Беласток, дык вывязьлі с сабой усе грошы, паложэные ў гасударственны банк. Гэтак многа заможных людзей апынуліся ў вельмі цяжкім палажэньні, і новае таварыство мае на мэці аказаць ім помач. Яно дае валадзельцам кніжак зберэгацельнай кассы пазыкі да 50% паложэных імі грошы, але ўсяго ня болей 250 руб. Яно прынімае такжэ пад залог забаспечэные расейскім урадам цэнные паперы і полісы страхоўкі жыцьця. Пазыка даецца за 8%.

БЕЛАСТОК. Беластоцкая работніцкая страўня ад 1 студня да 31 мая выдала 104.400 порцій зупы, у тым ліку 5.300 дарма, 81.000 —за плату ад 4 да 8 фэн., 7700— ад 12 да 25 і толькі 1342—па сваей цане ад 30 да 37 фэн. Большая часць браўшых абеды — гэта работнікі-ткачы.

БЕЛАСТОК. Міравы суд засудзіў двох тутэйшых міліцыантоў за хабары на 3 мес. ў вастрог.

ГРОДНЯ. У усходніх паветах Гродзеншчыны ў вялізарных пушчах ізноў паявіліся воўкі. Дзеля зашчыты жыхароў трэба канечне наладзіць аблавы, каб вынішчыць ваўкоў.

ГРОДНЯ. Загадам 11 ліпня Stadthauptmann назначыў гэткіе найвышэйшые цэны за папраўку ботаў: за прыбіцьце падноскаў (без матэр'ялу) да панскіх ботаў—3 м., да звычайных—2 м.; за папраўку абцасоў—1 м. За нарушэньне гэтаго караціму́ць штрафам грашмі да 6.000 м. або вастрогам да 6 месяцоў.

ГРОДНЯ. 15 гэтаго месяца знаменіты скрыпач Клінглер даў тут свой канцэрт.

ГРОДНЯ. На Іванаўскай вул., каля дому № 8, знайшлі жыдоўскаго хлопчыка з запіскай у жыдоўскай мові, ў каторай была просьба ўзяць дзіця да сябе або аддаць у прытулак.

ГРОДНЯ. Stadthauptmann напамінае, што рэзаць гусей, качэк, індыкоў і т. д. можна толькі маючы пазваленьне на пісьме.

ТУРОЗА ДОЛЬНАЯ. Быўшый старшыня Бэцпус за укрываньне воза бульбы і двох вазоў жыта, якіе ён павінен быў здаць ваенному упраўленьню, засуджэн на 4 месяцы ў вастрог.

РАФАЛОЎКА. Селянку Мар'яну Шыманнік пакаралі вастрогам за тое, што с прычыны яе недагляду 6-гадовы сынок яе гуляў с серчыкамі, ды ад гэтаго узняўся пажар і згарэлі 6 гумен.

КОЎНА. Пасьля таго, як нямецкае упраўленьне было перанесено у цэнтр места — на вуліцу Ізэнбурга, ковенскі ратуш зачынілі для публікі.

У ваколіцах Коўны жыта, бульба і авёс вельмі добра йдуць. Апошніе дажджы былі для гаспадаркі вельмі карысны.

Вучэніца Мар'яна Янчэўская, 8 гадоў, пражываўшая ў бацькоў пры Вілейскуй вул. 3, 2-га ліпня прапала бяз весьці. Яна, мусіць, уцякла, баючыся кары за тое, што ў гэты самы дзень у бюро выдачы карт на хлеб украла ў аднэй кабеты пашпарт Обэр Ост з 20 маркамі. Аднак, можэ быць, што з ей здарылося якое нешчасьце.

КОУНА. Stadthauptmann ізноў звертае увагу публікі на тое, што за выезд у правінцію без пазваленьня на пісьме сурова карацімуць.

СУВАЛКІ. Быць на вуліцах тутэйшым жыхаром пазволено да 11 гадз.

СУВАЛКІ. Віленская жыдоўская трупа ставіла тут п'есу «Шатан», або «Бог, чэлавек і чорт» Якава Гордіна.

МІНСК. На тутэйшым фронці раздаюць проклямаціі, прызываючы ўцякаць з арміі, бароцца з буржуямі і дзяліць зямлю.

ГОМЕЛЬ. Насьледнікі князя Паскевіча - Варшаўскаго заявілі ахвоту замяніць тутэйшы памятнік Понятоўскаго работы Торвальдсэна на памятнік іх прэдка, які стаіць у Варшаве.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

ШТОКГОЛЬМ. С Торнэо даносяць, што **фінляндзкі сэйм аб'явіў незалежнасць Фінляндіі.**

Офіцыальнай весткі аб гэтым ешчэ німа.

КОПЭНГАГА. З Гэльсінгфорса даносяць:

Забастоўка паліцыі закончылася, але пачаліся новые забастоўкі. Забастоўшчыкі устроілі на вуліцах дэмонстрацію, да якой прыналежалі работнікі і салдаты. Прыняты рэзолюціі, дамагаючыся **поўнай незалежнасьці Фінляндіі і Украіны.** Баяцца агульнай забастоўкі.

ГЭЛЬСІНГФОРС. Праект закона аб вярхоўных правох фінляндзкаго сэйму прынят. У ім німа зусім гутаркі аб расейскім сувэрэнітэці і аб фінляндзкім генэрал-губэрнатары. Толькі у справе міжнародных зносін і ваеннай успамінаецца Расея.

ГЭЛЬСІНГФОРС (П.Т.А.). Галасаваньне праекта закона аб новых аснаўных законах Фінляндіі адбудзецца у аўторак. Соцыал-дэмократы зажадалі, каб дзень гэткаго важнаго галасаваньня сьвяткавалі ўсе работнікі.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Тымчасовы ўрад на сваім заседаньні 13 ліпня разгледаў фінляндзкую справу і прызнаў, што праекту закона аб аснаўных фінляндзкіх законах **прыняць нельга.** Аканчацельную пастанову аб гэтым урад адлажыў да галасаваньня закона ў сэйме.

ШТОКГОЛЬМ. У фінляндзкім горадзі Бэрмэ узняліся бітвы між расейскімі ваеннымі чынамі і цывільным насяленьнем, каторае не хацело пазволіць рабіць рэквізыцію. Забіты 20 жыхароў.

Фінляндзкіе жалезнадарожнікі зажадалі павялічэньня іх пэнсіі на 30%. Калі-ж ім адмовілі гэта, дык яны пачалі забастоўку.

## Галата і Бедната.

(Гл. пач. № 56 «Гомана»).

* * *

Каваль памыліўся: час ляціць, як стрэла, калі яго праводзіш у роскашы і дастатках. Дзесяць гадоў—гэта сон. Ен усяго адведаў, а нічым не здаволіўся. У адзін зімовы вечар ён апынуўся ў сваім доме. Ці яму прыйшла фантазія, ці мо' захацеў паграцца каля горна, бо пайшоў у кузьню і пачаў, распаліўшы горна, нагрэваць жалезо аж да чырвонаго. Ажно тут і чорт з'явіўся.

— Дзіўна!—сказаў ён. Вось ты і вярнуўся да сваей работы. Будзь спакойны: там, куды я цябе павяду, ўсё прыпомніцца табе; толькі не жалезо, а ты сам будзеш часта лежаць між малатком і кавадлам. І так, міленькі, прыйшоў час рахунку!..

— Я не забыўся яго, чорт, дзеля таго мне захацелося развітацца з домам нябошчыка бацькі. Я бы яго хацеў пакінуць у такім парадку, ў якім ён і быў, а тут, як відзіш, нехапае двух перакладзін у вакне. Пазволь уставіць новые: работы на цоўгадзінкі. Пасядзі ў гэтым крэсьле і пакаштуй гэтай гарэлкі, каторую я зумысьля для цябе прыгатаваў.

— Добра, толькі пасьпешайся,—сказаў чорт,—садзючыся на тое самае крэсла, на каторым сядзеў Пан Езус. Але чорт, як толькі сеў на крэсло, то так зморшчыўся, бытцым яго кругом калолі іголкамі ці смалілі агнём.

Галата тым часам напаліваў жалезо і завострываў канец, а сам не перэставаў шэптаць: „Езусе Хрыстусе, памажы!..“

— А, дык ты вось які! — нецярпліва крыкнуў чорт.—Ты пачынаеш шэптаць якуюсь там малітву!.. Але гэтым ты нічога ня зробіш, бо тая умова, каторую ты падпісаў,—пры мне. Ну, ў дарогу!

Тут чорт хацеў устаць, ды й ня мог; яму паказалося, бытцым ён прыкаваны да крэсла, а Галата, выхваціўшы з горна напалены да чырвана жалезны брусок, пачаў з усіх сіл пароць ім чорта. Чорт выў і роў ад болю і злосьці, а Галата тыцкаў ды тыцкаў вострым жалезам, бегаючы кругом крэсла.

— Пашкадуй! Злітуйся!—крычаў чорт. Чаго ты хочэш ад мяне, разбойнік?! Ціж я не стрымаў свайго слова? Ай, ай! Чаго ты яшчэ хочэш? Гавары скарэй! Я ўсё табе дам, што толькі зажадаеш, толькі пазволь мне жывому выйсьці адгэтуль!

— Ну добра—сказаў Галата (у яго ўжо рукі пачалі млець). Дай мне яшчэ дзесяць гадоў такога добраго жыцьця, як я меў гэтые дзесяць гадоў, і мне болей нічога ня трэба ад цябе. Але памятай, што калі ты прыйдзеш па маю душу, каб гэта было ў летку, а не зімой, бо, бачыш, я хачу сабраць свае сьлівы, каторые растуць вун у мяне на тым дрэве. Ды пэўне і чорт не адкажэцца пакаштаваць. Па руках?

— Па руках,—сказаў чорт.—Я прыйду праз дзесяць гадоў, як будуць сьпелые сьлівы. Тады ты ў мяне так запішчыш, як я ў цябе. Будзеш памятаць, крывапіўца!

Чорт выйшоў, стогнучы, с кузьні, але за сабой пакінуў такі смурод палёнаго сала, што хоць ты нос затыкай.

Галата, доўга не чэкаючы, пайшоў ізноў у горад карыстацца вясёлым жыцьцём.

* * *

Другіе дзесяць гадоў Галата і не агледзіўся, як праляцелі. Быў летні пекны сонечны дзень. Галата адпачываў пад сьлівай, ажно прыходзіць да яго чорт, а з ім разам шасьцёра чарценят, як абаронцаў.

Судовая камісія, прыехаўшая ў Кронштадт дзеля сьледзтва с прычыны арэшту афіцэроў, выехала адтуль.

ШТОКГОЛЬМ. Паводлуг шведзкіх газэт, расейскі тымчасовы урад востра крытыкуюць расейскіе газэты ўсіх кірункоў. Элементы, каторые ідуць проці революцыі, шукаюць арганізацыі, каторая памагла-бы ім правясьці іх пляны, і стараюцца аперціся на казаках. Бязспорна, што цяперашні лад у Расеі пачынае развалівацца, і ў найбліжэйшым часі трэба ждапь або работніцкай рэволюцыі, або поўнай рэакцыі.

Нацыянальны герой украінцоў—гэта Грушэвській. Ен заўладаў гасударственым банкам у Кіеві і фактычна пануе над тамтэйшым палажэньнем.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Міністэр заграничных спраў Тэрэшчэнко, почт—Цэрэтэлі і ваенны—Керэнскій, каторые паехалі ў Кіеў, паведамілі тымчасовы ўрад, што іх перэгаворы з галавамі украінскай рады дайшлі ўдачы, бо рада прыняла рэзолюцыю, на якую тымчасовы ўрад можэ прыстаць. Дэталічна аб сваей падарожы міністры раскажуць, вярнуўшыся ў Пецярбург.

БАЗЭЛЬ. Украінскіе сэпаратысты раздаюць між салдатамі „Украінскі Катахізм“, першая запаведзь катораго кажэ:

„Усе людзі—твае браты. Толькі вялікарусы, палякі і жыды — ворагі твайго народу, пакуль яны пануюць над намі і ўціскаюць нас“.

АПАРАНДА. Украінскіе ваенные часьці адмовіліся прылучыцца да «наступленьня Керэнскаго.» 5.000 салдатоў занялі ў Кіеві цэнтральны вагзал і намаўлялі другіх салдатоў, каб ня ехалі на фронт.

ЛОНДОН. «Daily News» даносіць, што украінцы не згаджаюцца служыць у іншых палках, апрыч украінскіх.

Большэвікі не кідаюць падбіваць народ проці далейшай вайны.

ШТОКГОЛЬМ. Англіцкі і францускі ўрад пратэставалі проці суда над царскай сям'ёй, баючыся, што на судзе могуць быць апублікованы тайные умовы між саюзьнікамі і старым расейскім правіцельствам.

ШТОКГОЛЬМ. «Рэч» пішэ, што ў Владывасток прыбыў японскі флот, і японская брыгада заняла чыгунку.

«Бірж. Вед.» даносяць, што сібірскай чыгункай у Пецярбург прыбываюць сотні японцаў з невядомай мэтай.

ЛЮГАНО. „Corr. della Sera“ даносіць с Пецярбурга:

Керэнскій і Брусілов атрымалі грозные пісьмы. У розных батальёнах былі знакі неслухмянасьці.

БЭРН. Расейскім наступленьнем пры Станіславове кіруе генэрал Корнілов.

БЭРЛІН. Узятые ў палон у апошніх бітвах салдаты заяўляюць, што расейскае наступленьне было магчымым толькі с прычыны апавешчэньня, што немцы ў розных пунктах самі пачалі наступленьне.

ШТОКГОЛЬМ. Пад той час, як часць расейскіх газэт закідае Брусілова пахваламі за яго ўдачы ў Галічыне, другіе газэты называюць яго „массовым убіўцай“. „Русск. Воля“ і нават „Русск. Інв.“ пішуць, што ўдачы не варты панесеных страт.

Большэвікі організавалі рад дэмонстрацій у знак пратэсту проці наступленьня.

«Русск. Слово» пішэ, што вядомы лятун Поляков збіт нет ведама кім разам са сваім аэропланам над Масквой.

«Ізвестія», орган рады раб. і салд., друкуець 122 пісьмы с фронту с пратэстам проці несчысьлёных ахвяр наступленьня. Усе дабіваюцца канца бойні.

ШТОКГОЛЬМ. У Кутаісе аружные людзі ўварваліся ў салю заседаньня рады раб. і салд., разагналі дэпутатоў і парвалі вісеўшый там рэволюцыйны чырвоны штандар.

У Воронежы мейсцовая рада раб. і салд. арэштавала архіерэя Тіхона. Пецярбурская рада раб. і салд. зажадала, каб яго ўраз жэ выпусьцілі, але воронежская рада адмовілася споўніць гэта.

У Луганску мейсцовы анархістычны камітэт арэштаваў увесь назначэны тымчасовым урадам камітэт дзеля спажыўных спраў, зложэны с 78 асоб.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Дзеля дэмократызацыі арміі тымчасовы урад пастанавіў пры кожнай вышэйшай камандзе арміі назначыць урадоваго ваеннаго камісара. Яны будуць занімацца развязкай палітычных пытаньнёў, якіе могуць узнімацца у арміі і флоце.

ЖЭНЕВА. „Petit Parisien“ даносіць с Пецярбурга, што вельмі трудна спадзевацца, каб установучы сэйм удалося сазваць ужо 13 кастрычніка нов. ст. Умяркаваные соцыялісты дамагаюцца сазыву ўраз-жэ, але камісія выказалася проці гэтаго.

ПЕЦЯРБУРГ. На выбарах у местовую думу ў Маскве кадэты атрымалі толькі 19% галасоў, а соцыял-рэволюцыонеры — больш паловы.

КОПЭНГАГА. Пецярбурская дума зрабіла у Англіі пазыку пад залог рухомаго і нерухомаго местоваго меньня. Англіцкі камісар будзе нагледаць над местовай гаспадаркай; яму даюцпа надта шырокіе правы.

ЛОНДОН. Міністэр працы, Гэндэрсон, назначаецца за пасла ў Пецярбург замест Буканэна.

ЛОНДОН. У Расею прыехало спэцыяльнае амэрыканскае пасольство, да катораго прыналежаць ня толькі дыплёмат Рут, але і генэрал Скот і адмірал Гленан. Амэрыканскіе дэлегаты на заседаньні рады міністроў развівалі шырокі плян організацыі Расеі пры помачы Злучэных Штатоў.

# З усяго сьвету.

БЭРЛІН. (В.Т.Б). Як даносяць, просьба аб адстаўцы канцлера Бэтманн-Гольвэга прынята; за яго насьледніка назначэн б. памочнік статс-сэкрэтара фінансоў, гасударственны камісар дзеля спраў стравованьня, Міхаэліс.

Бэтманн-Гольвэг быў пятым канцлерам. Заняў ён мейсцо канцлера 14 ліпня 1909 г.

ШТОКГОЛЬМ. Соцыялістычнае бюро апавешчае запрошэньне на соцыялістычную конфэрэнцію у Штокгольме 15 жніўня. Гэта конфэрэнція—справа рук пецярбурскай рады раб. і салд. і пяройдзе пад знамем расейскай рэволюцыі.

КОПЭНГАГА. Між расейскай дэпутацыей і скандынаўска-голандзкім камітэтам зроблена умова, паводлуг каторай рада раб. і салд. мае у жніўню 1917 г. сазваць у Штокгольме міжнацыональную соцыялістычную мірную конфэрэнцію. На парадку дня: сусьветная вайна і спосабы дзеля хутчэйшаго канца яе.

НЬЮ-ІОРК. Сэкрэтар соцыялістычнай партыі Злучэных Штатоў, Гільквіт, атрымаў запрошэньне на міжнародную конфэрэнцію у Штокгольмі за подпісам Чхэідзэ. Гільквіт прыняў запрошэньне і заявіў, што паедзе на конфэрэнцію, калі атрымае пазваленьне ад амэрыканскаго ўраду.

БЭРН. Соцыялістычная газэта «Tagwacht» даносіць, што вядомы соцыяліст, дэпутат Тураті, на адным сабраньні ў Мілане сказаў, што Італія стаіць напярэдодні рэволюцыі, толькі соцыялісты ня хочуць яе яшчэ сягоньня. Італія падобна цяпер да вулкана: даволі аднэй абмылкі правіцельства, каб кінуць іскру ў парахавы склад.

ЛОНДОН. У Іст-Кляры, ў Ірляндіі, сінн-фэйнэра дэ Валера выбралі перэвагай 5010 галасоў супроць нацыоналіста, атрымаўшаго 2035 галасоў. Дэ Валера заявіў, што ён цьвёрда дабіваецца утварэньня ірляндзкай рэспублікі.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

**13.VII. Заходні тэатр:**

Шмат дзе на фронці—стычкі і ўдачные наступленьня разведачных атрадоў.

---

Ворагі страцілі 17 самалётаў у бітвах на паветры і 2—ад зашчытнаго агня.

**Усходні тэатр:**

На Дзьвіне, каля Смаргоні і на Шчары—жывейшая баевая чыннасць.

На поўдні ад Днестра, на лініі Ломніцы, адбіты расейскіе наступленьня.

На фронці эрц-гэрцога Іозэфа і Макензэна, пасьля сільнаго агня, наступалі варожые сілы, але былі ўсюды адбіты.

**14.VII. Заходні тэатр:**

На узбярэжжы, пасьля сільнаго агня, англічане штурмавалі здабытые намі нідаўна пазыцыі. Яны адбіты, панёсшы вялікіе страты. На Іпры, на фронці Артуа і пры С.-Кантэн — вострая артылерыйская бітва і стычкі перэдавых атрадоў. Пры Буа Сулень, на поўначы ад Рэймсу, нашы войскі здабылі францускіе акопы і ўдзержалі іх супроць контратак.

---

Учора ў бітвах на паветры і зашчытным агнём збіты ў ворагоў 21 самалёт і 1 прывязны лятучы шар.

---

— Добры вечар,—сказаў Галата, вітаючы чорта.—Ведаеце, што мне ўжо нават абрыдло гэтае жыцьцё, і я цяпер без жалю пакіну гэты сьвет. Але слухай, чорт, пазволь мне напісаць пару радкоў, каму і што я адказваю па маей сьмерці. Пакуль я буду пісаць, мо' твае дзеці пакаштуюць маіх сьліў, а нават і табе самому варта пакаштаваць, на што маюць аставацца.

Хцівасць чорта такая вялікая, што яго два разы ня трэба прасіць. Чарценяты узлезьлі на дрэва, а за імі і сам іхні начальнік. Сарваў адну сьліву, пакаштаваў—смачна; другую, трэйцюю і т. д. А каб лепей было дастаць, узлез аж на самы верх і нават забыўся аб кавалю.

„Эва была зусім дурная, што дала сябе ашукаць яблыкам,—думаў чорт.—Сьлівы ў сто разоў смачнейшые, і я цяпер разумею, што каваль іх так шкадуе пакінуць“.

Думаючы так, яму яшчэ вялікшы апэтыт надыходзіў і ён яшчэ хцівей працягваў сваю касматую лапу.

„Вось гэта пекная, а гэта яшчэ пякнейшая“.

Каваль тым часам не дрэмаў: заместа таго, каб пісаць, ён распаліў горна і з усей сілы напалівае жалезны брус з вострым канцом...

Як толькі канец зрабіўся чырвоны, Галата бягом кінуўся пад сьліву, на каторай сядзеў чорт с чарценятамі, і, патрасаючы брусом, с катораго аж іскры сыпаліся, пачаў рагатаць:

— Ха-ха-ха! Пан чорт! Смачные мае сьлівы, але ты думаеш, што я іх дарма даю? Пачэкай, заплаціш ты мне за іх!

Гаворачы так, Галата не чэкаў, пакуль жалеза астыне. Хаця чарценяты і стараліся чым вышэй узлезьці, але нічога не памагало; іх усюды даставаў Галата. Яны кідаліся ўсюды, крычалі, пішчэлі, бытцым іх там было з дзесяць коп, — такі быў крык. Начальнік іх так сама ня быў пашкадаваны.

— Досіць, Галата!—рычэў чорт. — Досіць табе здзекавацца над намі! Што мы табе дрэннаго зрабілі? Хочэш яшчэ дзесяць гадоў? Атрымаеш іх, разбойнік, вісельнік, душагубнік! Адпусьці толькі нас жывымі.

* * *

Прайшло дзесяць гадоў. Галаце папраўдзі ўжо нацаело жыць. Ен ужо пастарэў, як грыб, валасы пасівелі, а аб ужываньні далей роскашы ён і думаць не хацеў.

Зайшоўся адзін раз у кузьню і думае: што ён будзе цяпер рабіць, ажно глядзіць: і чорт ужо прыйшоў.

— Вось і я,—сказаў чорт, стоючы на парозе.—Цяпер ты ўжо мяне не абманіш, як раней. Жартаваць ужо ня будзем.

— І мне не да жартаў,—сказаў Галата.—Я ўжо стары і мне прыйшоў час уміраць... Усе кажуць, што чорт найхітрэйшы за ўсіх на сьвеці, але гэта пустая гутарка, бо ты сам добра ведаеш, што я цябе два разы так добра ашукаў, што лепей і сам Люцыпар твой не прыдумае. Ці не праўда?

— Ты так думаеш?—гіркнуў чорт, зачэплены за жывое. Мне здаецца, што ты павінен сам спрактыкавацца, якая мая сіла і хітрасць, калі ў твой капшук пасыпаліся мільёны, як дождж.

— Пустое, зусім пустое ты кажэш, чорт,—сказаў з насьмешкай скрывіўшы рот Галата.—Ты сам павінен ведаць, сколькі людзей робяцца багатымі нават без тваей умовы, а капшукі, я думаю, дзеля гэтаго і зроблены, каб прыймаць золата... Але ў гэтым старым капшуку, ў каторым былі мільёны, я магу с пэўнасьцю сказаць, што ты ў ім ня можэш быць, бо не дажыўся таго, а каліб і захацеў, то я-бы табе не радзіў.

Кажучы гэта, Галата развязываў свой капшук і скоса паглядаў на чорта.

**Усходні тэатр:**

Каля Дзьвінска і Смаргоні — жывейшая баевая чыннасць.

Пры Бэрэжанах, у Усходняй Галічыне, востры агонь.

**15. VII. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У Фляндрыі, пры Ленсе і наабапол Скарп—сільны агонь. Пры Гаврэль, Круассі і Бількур адбіты англіцкіе наступленьня.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Пры Шмэн дэ Дам узята француская пазыцiя на 1.500 мэтроў у шырыню і 300 м. у глыб. Узяты 350 палонных. Адбіты тры контратакі. У ворагоў цяжкіе страты. У заходняй Шампані міжНоруа і Муронвільье французскіе атакі, наагул, адбіты. Толькі пры Высокай гарэ і гарэ Пэль ворагі пасунуліся ўпярод. На левым беразі Маасу французы пасьля барабаннаго агня пайшлі ў атаку, але ўсюды былі адбіты зашчытным агнём.

**Усходні тэатр:**

На Дзьвіне і ля Смаргоні — жывейшая баевая чыннасць. У усходняй Галічыне—сільны агонь. На поўдні ад Днестра, ля Калуша, адбіты расейскіе наступленьня.

---

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 12. VII. **Усходні тэатр:** На поўдні ад Днестра расейцы дайшлі да нашых пазыцый на Ломніцы. Каля Калуша, на заходнім беразі ракі, бітвы. На Стоходзі, на поўначы ад чыгункі Ровно—Ковэль, адбіто расейскае наступленьне.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Імператар выслухаў справоздачы Гіндэнбурга і Людэндорффа.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Ад 1 да 10 ліпня на адрэзку Бэрэжаны-Зборов узяты 1900 палонных, у тым ліку 22 афіцэры.

Палонные ацаведаюць, што ад некаторых рот асталося толькі па 30 салдатоў. Асабліва цяжкіе страты з ай заамурскай дывізіі. На расейскім фронці пануе шкорбут.

БЭРЛІН. (В.Т.В.). 15. VII. Учора ворагі утрацілі 21 самалёт і 1 прывязны лятучы шар.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). 12. VII. У поясе блокады навакол Англіі ізноў затоплен рад параходаў і парусьнікоў.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Біскайскай затоцы і Англіцкім каналі ізноў затоплены падводнымі лодкамі 24.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Англіцкім каналі і Паўночным моры падводнымі лодкамі ізноў затоплены 6 параходаў, два парусьнікі і 7 рыбаловаў.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые удачы падводных лодак у Атлянтыцкім акіяні: 21.000 тонн.

ЛОНДОН. «Times» пішэ, што за першые 6 месяцоў гэтаго году затоплены 600 англіцкіх параходаў рознай велічыні.

ЛОНДОН. Супэр-дрэдноўт «Ванкарт» 9 ліпня ўзарваўся і затануў. Выратаваны толькі 2 матросы і 1 афіцэр.

ВАШЫНГТОН. (Рэўтэр). Парлямэнт усемі галасамі прыняў закон аб будові 22.000 самалётаў.

ЛОНДОН. Ня гледзячы на намечаную конфэрэнцію дзеля замірэньня, Ірляндзія жыве пад грозьбай кулемётаў і штыкоў. Дублін, Бэльфаст і Корк падобны да мест варожаго краю, занятаго войскам. У Дубліне сінн-фэйнэры заснавалі сваю глаўную кватэру. Англіцкі штандар парвалі і замянілі ірляндзкім рэволюцыйным штандарам. Рэкруцкае бюро разгромлено.

---

## Аб усім па троху.

**Земляная блаха.**

Суш вельмі памагае вялікаму множэньню земляных блох, ад нападу каторых найбольш церпяць крыжыковые расьліны, уселякіе сарты капусты і гароднiны. Жучкі, атрымаўшые сваё імя за скаканьне, так накалываюць лісьці, што пры больш чысьленым паяўленьні гэтых шкоднікоў расьліны гінуць і сохнуць.

С-паміж спосабоў барацьбы з імі, ужываных у мірны час у Нямеччыне, у цяперашні час для гародаў найбольш прыгодны:

1) частае паліваньне расьлін (земляные блохі вельмі баяцца вільгкасьці);

2) паліваньне або шпрынцаваньне расьлін тытуновым лугам, або ешчэ абсыпываньне цёртым тытуном раніцай, пакуль раса не зыйшла з расьлін.

На палёх можэ быць ужываны толькі цёрты тытун, абсыпаючы ім расьліны.

---

**Капустная муха.**

Калі на капустнай градзе паадзінокіе расьліны пачнуць адставаць або сохнуць, то бязспорна на іхніх калівах і карэньнях знаходзяцца, што сёлета вельмі часта здараецца, белагаловые, каля 1 цм. даўжыні чэрвячкі, лярвы капустнай мухі. З'едзеные шкоднікамі карэньня капусты ня могуць выпаўняць больш свайго назначэньня, і расьліна пачынае гінуць або зусім уміраe.

Мухі колеру попелу кладуць вясной на вышэй названых часьцях расьлін свае яечкі, і з іх цераз 10 дзён вылупляюцца чэрвячкі, каторые і паедаюць лісьці і карэньня расьліны. Пазьней яны прабіраюцца ў зямлю і там абарачываюцца ў лярвы. На развіцьце гэтых шкоднікоў даволі 8 нядзель, і такім парадкам у год выводзіцца іх некольки пакаленьнёў. Дзеля барацьбы з імі найлепш акуратна абшуківаць капустные грады, як мага вырываючы першые хворые расьліны, каторые трэба закапываць пасьля глыбока ў зямлю, або кідаць у вагонь.



---

Чорт натуру мае недаверчывую і трусьлівую, але за тое вялікі хвалько. Калі хто яму скажэ, што ён ня можэ чаго зрабіць,—гэта для яго зарэз.

— За гэтым інтэрас не затрымаецца,— сказаў чорт:—я бяруся яго споўніць.

І адным кульком апынуўся ён у капшуку. Галата, доўга не чэкаючы, моцна завязаў свой капшук.

— Ну, што, пераканаўся?—запытаўся с сярэдзіны бытцым камаровы голас.

— Чаму-ж не,—засьмеяўся сваім безгалосым сьмехам Галата. — Праўда, што ты спрытна ўлез, але як ты вылязеш адтуль, гэта пытаньне! Цэўне ні аднэй костачкі цэлай не астанецца ў цябе!

Гэтак гаворачы, Галата палажыў капшук на кавадла і пачаў з усіх сіл малаціць па ім малатком.

— Досіць! Досіць!—зароў чорт. — Ты хочэш яшчэ дзесяць гадоў? Я табе дам іх!

— Не хачу ні дзесяці, ні двадцаці, а толькі хачу, каб ты мне аддаў тую умову, каторую я падпісаў.

— Ніколі!—крыкнуў чорт.—Ты зараз змардуешся малоцючы.

— Калі я змардуюся—я аддыхну, а ты ня выйдзеш адгэтуль, пакуль ня будзе разарвана умова.

І Галата пачаў ізноў малаціць, колькі сіл меў.

— Слухай! Бяры сваю умову і зламі ты сабе галаву з ей разам!

* * *

Умова была парвана, і Галата зрабіўся такі бедны, як і раней быў.

Хацеў узяцца за работу, але сілы не служылі, бо быў вельмі стары ўжо. Кузьня развалілася, хата так сама, сьліва ссохла, і Галата відзіць, што ўжо ня можэ сабе зарабіць і на кавалак хлеба.

Жыцьцё зрабілося Галаце зусім нямілa. Узяў свайго старога сабаку Беднату і пайшоў стукацца ў рай. Падыйшоў да дзьвярэй:

— Стук-стук.

У поўаткрытае ваконцэ паказаўся сьв. Пётра са злосным тварам.

— Хто ты гэткі?

— Я той бедны каваль, у катораго вы, сьв. Пётра, падковывалі мула.

— Ага! Пазнаў цябе. Гэта ты той самы, каторы ня слухаў маей рады. Замест прасіць раю, ты зыйшоўся с чортам! І яшчэ адважыўся мяне трывожыць! Вон адгэтуль, тут німа для цябе мейсца!

— Я перэпрашу...—хацеў штось сказаць Галата, але не дакончыў сваей гутаркі, як ваконцэ раю зачынілося.

Завярнуўся Галата, ўзяў свайго сабаку Беднату і пайшоў да пекла.

Галата пастукаўся ў пякельные дзьверы. Дзьверы расчыніліся насьцеж і чэрці, каторые стаялі на варце, рагатые, касматые, хацелі схапіць Галату, але як пазналі ў ім свайго ворага, с крыкам і піскам пачалі ўцекаць, хто куды. Ажно, пачуўшы такі шалёны крык, прыбег сам Люцыпар.

— Гэта ты!—зароў ён, скрыгочучы зубамі.—Ты выробляеш уселякіе паскудные штукі і прыйшоў ажно да майго царства?!.. Вон адгэтуль, страшыдла паганае, каб твайго і сьледу тут не было!

Дзьверы пякельные зачыніліся перад самым носам Галаты.

...Вось дзеля чаго Галата і Бедната, адкінутые небам і ня прынятые пеклам, цягаюцца і цяпер па зямлі, шукаючы сабе прыпынку і кавалка хлеба паміж людзей.

З расейскай мовы пералажыў

**В. Лемеш.**

Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар Язэп Салавей.